ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 97 (1734)
Аўторак
4
снежня
1962 года

Цана 4 кап.

У ГЭТЫМ НУМАРЫ

МАСТАКІ РЭСПУБЛІКІ ТРЫМАЮЦЬ СПРАВАЗДАЧУ

ДА ПАЧАТКУ ДЭКАДЫ САМАДЗЕЙНАСЦІ — ШЭСЦЬ ДЗЁН

ВЫСОКАЕ МАЙСТЭРСТВА — АДМЕТНАЯ РЫСА СУЧАСНАСЦІ Ў ЛІТАРАТУРЫ

З камандзіроўкі ў дні Пленума

## НАБІРАЙ ВЫШЫНЮ, СТАРШЫНЯ!

Міхась ДАНІЛЕНКА

У дні работы лістападаўскага Пленума ЦК нашай партыі давялося мне быць у адным з дальніх калгасаў Лоеўшчыны — у сельскагаспадарчай арцелі імя Карла Маркса. Колькі дзён запар ліў дождж, па канавах аж раўла вада. Старшыня калгаса, Аляксей Яфімавіч Мамстаў, мажны, шыракаплечы мужчына, надоўга паставіў сваю «Волгу» ў гараж і мясіў ботамі гразь разам са мной ад брыгады да брыгады.

Чалавека гэтага я ведаў даўно — яшчэ з таго часу, калі сам працаваў у Лоеўскім раёне настаўнікам. А Мамстаў быў тады дырэктарам Рудня-Марымонаўскай школы, за Сожам. Прыгожыя там мясціны. Вясною Сож залівае лугі, падбіраецца да сядзіб марымонаўцаў,ласкава палошча вецці вербаў у вадзе.

— Быў я там не вельмі даўно, — задуменна гаворыць Аляксей Яфімавіч. — Паверыш? Пры сустрэчы дзядзькі шапкі знімалі. Помняць усё ж, а?

Я ведаў, што райком партыі накіраваў былога дырэктара школы ўзнімаць мясцовы адстаючы калгас. Калі прызнацца па праўдзе, дык не вельмі хацелася Аляксею Яфімавічу мяняць звыклую прафесію настаўніка на пасаду гаспадарчага кіраўніка. Але Мамстаў камуніст і слова партыі для яго — закон.

— Ой, не да спадобы прыйшоўся я тады многім, — усміхаецца Аляксей Яфімавіч. — Абібокаў і захрыбетнікаў не паступова, а адразу так прыціснуў, што аж алей з іх пацёк. Касавурыліся яны, браце, на мяне здорава. Ды нічога, пакрысе абламаліся.

Дождж сячэ і сячэ. Разлілася, затапіла берагі, як вясной, Брагінка. Цячэ яна недзе туды, у Камарынскі раён, да станцыі Іёлча. Тыя мясціны цудоўна апісаны Канстанцінам Паустоўскім у яго «Аповесці аб жыцці». Раздзел «Карчма на Брагінцы». Там — усё знаёмыя месцы: вёска Пагоннае, Іёлча, Камарын. Я гавару Аляксею Яфімавічу, што «Карчма на Брагінцы» вельмі спадабалася выдатнаму рускаму пісьменніку Івану Аляксеевічу Буніну, і ён пісаў аб гэтым з Парыжа пісьменніку Н. Целешаву.

— Вось не чытаў і не ведаў, — ажыўляецца Мамстаў. — А ў тых мясцінах быў: па справах меліярацыі калгаса ездзіць даводзілася. Гэ, каб прыехаў зараз туды Канстанцін Паустоўскі, — не пазнаў бы Камарынскага Палесся.

Мамстаў добра ведае і любіць літаратуру. Цяпер, праўда, не так часта даводзіцца выкройваць старшыні вольную хвіліну, каб узяць у рукі любімую кнігу: адной ворыўнай зямлі ў калгасе звыш дзвюх тысяч гектараў. Усяго ж у калгасе імя Карла Маркса чатыры тысячы семсот гектараў зямельных угоддзяў. І хоць брыгадзіры ў гаспадарцы падабраны цудоўныя, самому таксама прыходзіцца бываць ва ўсіх, як кажуць, куточках.

У памяшканні калгаснай канторы ў вёсцы Баршчоўка брыгадзір Зміцер Яроменка ўважліва прыслухоўваўся да слоў старшыні. Размова ў іх ішла аб гаспадарцы, аб матэрыялах Пленума.

— Як? Святлее на душы, казак? — жартуе Мамстаў.

— А што ж? Правільна, своечасова пастаўлена пытанне аб партыйным кіраўніцтве народнай гаспадаркай, — адказвае Зміцер. — Нашаму калгасу цяпер не крокамі, а вёрстамі трэба адлегласць мераць.

Яшчэ раней у райкоме партыі першы сакратар Віктар Антонавіч Нямкевіч мне даў «арыентацыйныя» лічбы па калгасе імя Карла Маркса. Не сорамна такія лічбы назваць: на сто гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў марксаўцы ўжо дамагліся 237 цэнтнераў малака, а мяса — 31,4 цэнтнера на сто гектараў ворыва. Раней нарысісты звычайна ў суседнюю сельскагаспадарчую арцель імя Леніна зазіралі. А цяпер — калгас імя Карла Маркса абагнаў яе.

Дзе ж той ланцуг, за які ўдалося ўхапіцца, каб выцягнуць калгас імя Карла Маркса з прарыву? Я ведаю, што калі старшынёй тут абралі Мамстава, у арцелі «вісела» паўтара мільёны рублёў (у старых грошах) даўгоў, свінкі хутчэй былі падобны на ганчакоў, а ў кароў рэбры можна было яшчэ здалёк пералічыць.

Людзі! Вядома ж, людзі памаглі старшыні, калі ўбачылі, што прыехаў ён да іх назаўсёды — не так, як яго папярэднік Касюк.

Аляксей Яфімавіч змог згуртаваць людзей, да іх парад ён заўсёды прыслухоўваецца. Вось у гэтай самай Баршчоўцы, дзе брыгадзірам Зміцера Яроменку вылучылі, землі былі зусім спустошаны. Іх кіслым торфам «пачаставалі». Пра мінеральныя ўгнаенні ніхто і не заікаўся. Значыць, трэба было весці бой (іменна бой!) у першую чаргу за кармы, як раіў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў.

У калгасе пашырылі пасевы кукурузы, цукровых буракоў. Закупілі групу кароў-кастрамічак. А што? Няхай прывыкаюць яны да беларускай зямлі. Няхай больш малака даюць.

І — зрушылася (хоць і ой, як нялёгка!) справа з месца. Зараз ужо за дзесяць месяцаў гаспадарчага года на кожную фуражную карову надоена звыш 1.700 кілаграмаў малака. А лепшая даярка арцелі Люба Дзюбкіна больш трох тысяч кілаграмаў надаіла.

Быў з гэтай жанчынай год назад Аляксей Яфімавіч у Мінску на рэспубліканскай нарадзе работнікаў сельскай гаспадаркі, Мікіту Сяргеевіча слухаў. Слухаў, а сам тады ж прыкідваў у галаве: а што яшчэ могуць яны «выціснуць» са сваёй гаспадаркі, як зрабіць так, каб яшчэ большы разгон яна мела?

Можа таму і перасталі ездзіць нарысісты са сталічных і абласной газеты ў некалі перадавую гаспадарку — калгас імя Леніна, што перастаў яе старшыня Сяргей Гаўрылавіч Баброў наперад зазіраць, навуковыя разлікі рабіць?

А цяпер вось — зноў Пленум. І можа нездарма сказала Мамставу ўчора даярка, камуністка Ліда Забалоцкая:

— Паверыце, старшынька? Быццам аж падужэлі рукі ў нас, быццам аж сіл прыбавілася, калі рашэнні Пленума слухалі мы. І зробяць, многае зробяць нашы людзі.

— Вядома, зробяць, — згаджаецца Аляксей Яфімавіч. — Так і партыя гаворыць.

... Вечарам стомленыя сядзелі мы ў калгаснай канторы ў Малінаўцы з Аляксеем Яфімавічам Мамставым.

Калгасны старшыня трымае на стале разгорнутай салідную кнігу. Гэта — дваццацігадовы план забудовы калгаса, распрацаваны канторай «Міжкалгаспраект». Роўнымі лініямі працягнуліся вуліцы калгаснага цэнтра. Тут вось будзе парк, тут — школа, тут — бальніца, дзіцячы сад... Пад выносістымі соснамі, на пагорку, вырасце цудоўны палац культуры.

За акном ціха пераміргваюцца зоры, ярка ззяюць электрычныя агні вёскі.

## МАСТАК ЧЫТАЕ МАТЭРЫЯЛЫ ПЛЕНУМА

«... Пасля набыцця тэлевізара вашай вытворчасці не тэлевізар, а тэлевізійнае атэлье стала маёй «забавай».

Вы ўяўляеце, зразумела, што гэта за «забава» мецць справу з тэлевізійным атэлье. Згарэць з сораму павінен дырэктар завода, які атрымаў такое пісьмо.

(З даклада М. С. Хрушчова).




— Ганьбіць свае імя не дазволю!

Мал. Ул. БАРАНОЎСКАГА.



Трыпціх К. Касмачова «Незабыўнае».

З рэспубліканскай мастацкай выстаўкі 1962 года.

## ТВОРЧЫ ГОД МАСТАКОЎ

Мінулы тыдзень для беларускіх мастакоў і работнікаў Дзяржаўнага мастацкага музея БССР быў асабліва напружаны — у залах музея ішла падрыхтоўка да адкрыцця рэспубліканскай выстаўкі выяўленчага мастацтва.

І вось у суботу ўвечары каля 500 жывапісных палотнаў, скульптур, графічных лістоў і твораў мастацкага шкла і керамікі прадсталі перад гледачом. Старшыня Саюза мастакоў БССР В. К. Цвірко коратка ахарактарызаваў значэнне і асаблівасці сёлетняй выстаўкі. Ён зазначыў, што яна ў нейкай меры адлюстроўвае пошукі новых шляхоў і тыя змены, якія сталі характэрнымі для нашага мастацтва, асабліва пасля XXII з'езда партыі.

Я папрасіў Віталія Канстанцінавіча даць невялікае інтэрв'ю для «Літаратуры і мастацтва».

Год гэты быў цікавы, зазначыў В. Цвірко, і напружаны, хоць зроблена далёка не ўсё, што хацелася б. Падрыхтоўка і правядзенне ў канцы зімы рэспубліканскага з'езду мастакоў, разнастайная творчая і арганізацыйная дзейнасць новых праўленняў саюза і Мастацкага фонду, творчыя камандзіроўкі мастакоў у калгасы і на прадпрыемствы рэспублікі, паездкі ў дамы творчасці, семінары, абмеркаванні, увогуле, накапленне мастакамі жыццёвага матэрыялу і непасрэдная праца над творамі, — такая агульная, далёка няпоўная карціна жыцця калектыву мастакоў. А больш канкрэтна яна знайшла сваё адлюстраванне, напрыклад, у цэлым шэрагу творчых выставак, што былі арганізаваны на працягу года. Вясною прайшлі Тыдзень беларускага выяўленчага мастацтва і веснавая выстаўка. Пазней выставілі свае работы мастакі, якія пабывалі ў замежных турысцкіх паездках. З творчасцю асобных мастакоў гледачы маглі даволі шырока азнаёміцца на персанальных выстаўках Б. Малкіна, П. Гаўрыленкі, А. Шаўчэнкі, Я. Красоўскага, М. Тарасікава і А. Заспіцкага.

Цікава прайшло абмеркаванне выстаўкі плакатаў, прадстаўленых на рэспубліканскі конкурс, што быў арганізаваны Белдзяржвыдавецтвам сумесна з секцыяй плакатыстаў. Другі такі конкурс праходзіць зараз, і гэта вельмі добра, калі ўлічыць наша адставанне ў галіне плакатнага мастацтва.

Дрэнна абстаіць справа ў нас з падрыхтоўкай кадраў мастакоў-прыкладнікаў, няма і дастатковай тэхнічнай базы для развіцця мастацкіх промыслаў. Але тое-сёе ў гэтай галіне ўсё ж робіцца. Цікавыя работы выканалі, напрыклад, мастакі Г. Вашчанка і Ул. Стальмашонак у памяшканні тэхналагічнага інстытута, у Палацы піянераў. Цяпер Б. Малкін распрацоўвае праект афармлення кафэ аэрапорта. Мастакам мяркуецца даручыць і рад іншых інтэр'ераў горада. Гэта будзе добрым пачаткам. Апроч таго Мастацкаму фонду абяцаюць перадаць адно з прадпрыемстваў рэспублікі для развіцця керамічнай вытворчасці.

Нельга не закрануць у нашай размове і стан мастацтвазнаўчай крытыкі.

— Нельга, — пагаджаецца Віталій Канстанцінавіч, — тым больш, што стан яе пакідае жадаць лепшага. У нас мала і недастаткова кваліфікавана пішуць аб мастацтве.

Нават працы нашых вучоных з Інстытута мастацтвазнаўства, энтнаграфіі і фальклору часам вельмі непрафесіянальныя, не вызначаюцца глыбінёй, арыгінальнасцю думкі і аб'ектыўнасцю ацэнак. Не задавальняе мастацкую грамадскасць і тое, што паяўляецца ў перыядычным друку. Ды калі што і паяўляецца, дык ад выпадку да выпадку. Вядома, віною тут інертнасць нашай секцыі крытыкаў. Але і самі мастакі павінны праяўляць больш зацікаўленасці ў абмеркаванні сваёй творчасці, а то мы, што грэх таіць, часам хваравіта ўспрымаем крытыку ўвогуле, нават добразычлівую. Вельмі раўнівыя многія з нас да сябе. І гэта таксама нараджае інертнасць крытычнай думкі. Вось спадзяёмся, што сёлетняя выстаўка ўжо ж выкліча жаданне сур'ёзна пагаварыць, не ў прыклад Усесаюзнай, абмеркаванне якой так і не ўдалося правесці. Усё ж сёлетняя наша выстаўка, як і выстаўка работ мастакоў тэатра і кіно, што экспануецца ў салоне, з'яўляецца падзеяй. Заўважце, яна многім адрозніваецца ад выставак мінулых гадоў. У ёй несумненна ёсць штосьці свежае...

І гэта сапраўды так. Першыя ж гледачы — госці і самі мастакі з цікавасцю аглядаюць работы. Завязваюцца спрэчкі, даюцца першыя ацэнкі. Твораў, як ужо гаварылася, многа, тут цэлая серыя пейзажаў В. Цвірко, Я. Зайцава, вытанчана прыгожы нацюрморт «Хрызантэмы» А. Марыкса, лірычны нацюрморт В. Жолтак «Сон-трава», гарадскія пейзажы А. Кроля, работы маладых мастакоў і скульптараў — цікавыя партрэты А. Анікейчыка, скульптура «Рамонка» Г. Мурамцава, у якой аўтар паставіў перад сабою задачу вырашыць лірычную тэму; пейзажы П. Данелія, якія сведчаць аб пошуках аўтарам новай манеры.

Ля многіх работ гледачы падоўгу спыняюцца. Нельга, несумненна, абысці ўвагай работы М. Савіцкага, К. Касмачова — яго трыпціх, прысвечаны Уладзіміру Ільічу Леніну, карціну Г. Паплаўскага «Дзяўчына ля акна», пейзаж М. Казакевіча «Возера», графічную сюіту А. Кашкурэвіча, тэмпера Б. Заборава, гравюры А. Паслядовіч, скульптуру «Рабочы» М. Якавенкі...

Пачуццё сучаснасці, творчая своеасаблівасць мастака заўсёды вабіць і выклікае ў гледача пачуцці, жаданне пранікнуць ва ўнутраны свет аўтара.

І наадварот, глядач застаецца раўнадушным у адказ на раўнадушнасць аўтараў, на паўтарэнне пройдзенага ў мастацтве, чым, на жаль, таксама адрозніваецца нямала твораў, што трапілі на выстаўку.

І гаворачы пра гэтую аднастайнасць, нельга не заўважыць, што выклікана яна тым, што некаторыя мастакі, у пошуках сучаснай манеры, не ідуць далей чыста вонкавых прыёмаў. Будучы ўнутрана непадрыхтаванымі, яны адрываюцца ад старых шаблонаў, трапляючы ў новыя.

Пошукі новага заўсёды цяжкія. Шчырае імкненне да прастаты, чалавечнасці, адмаўленне ад напышчаных, ілжывых па тэмах і думках работ патрабуе і сапраўды новых сродкаў выяўлення, сапраўды высокага майстэрства Выстаўка, на маю думку, сведчыць аб пераходным этапе ў развіцці беларускага мастацтва і ўжо адно гэта робіць яе прывабнай.

С. АРКАДЗ'ЕЎ.

### Канстытуцыя гарантуе...



Хто кінуў на яго нават кароткі позірк, не забудзе ніколі, хоць і быў той здымак змешчаны ў адной з газет, здаецца, летась. Гэта былі рукі. Рукі, вузлаватыя і мазольныя, застылі ў суровай роспачы. Пад здымкам стаяў кароткі подпіс: «Рукі беспрацоўнага»...

Няма большай бяды, чым тая, якую выказалі гэтыя застылыя рабочыя рукі. І няма больш вялікага шчасця, больш высокага права, чым тое, якім валодаюць вось гэтыя дзве жанчыны на нашым здымку. Паглядзіце, якой спакойнай упэўненасцю свецяцца твары прадзільшчыц Мінскага камвольнага камбіната Надзі Дзіюк (злева) і Ніны Крук. Ні сёння, ні заўтра, ніколі не давядзецца ім пазнаць, што яно азначае, страшнае слова «беспрацоўе». Савецкая Канстытуцыя, свята якой 5 снежня адзначае наш народ, гарантуе ім гэта.

## ВЫСОКАЕ ПРЫЗВАННЕ САВЕЦКАГА МАСТАЦТВА — СЛУЖЫЦЬ НАРОДУ, СПРАВЕ КАМУНІЗМА

### АГЛЯД КІРАЎНІКАМІ ПАРТЫІ І ЎРАДА ВЫСТАЎКІ ТВОРАЎ МАСКОЎСКІХ МАСТАКОЎ

1 снежня кіраўнікі партыі і ўрада наведалі выстаўку твораў маскоўскіх мастакоў, наладжаную ў Цэнтральнай выставачнай зале і прысвечаную 30-годдзю Маскоўскага аддзялення Саюза мастакоў.

У залах выстаўкі экспануецца больш чым 2.000 твораў жывапісу, графікі і скульптуры.

На выстаўцы прадстаўлены розныя работы, створаныя маскоўскімі мастакамі за трыццаць гадоў. Яны разнастайныя па сваёй тэматыцы, па жанрах, творчых прыёмах, выканаўчай манеры. Тут — шырока вядомыя палотны, скульптуры, рысункі, плакаты, карыкатуры, творы прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва. Многія з выстаўленых твораў прысвечаны падзеям рэвалюцыі, аднаўленню гаспадаркі і мірнаму будаўніцтву, гераічным тэмам Вялікай Айчыннай вайны, працоўнаму подзвігу народа ў барацьбе за камунізм. На выстаўцы прадстаўлены творы вядомых майстроў Н. Андрэева, Ф. Багародскага, Е. Белашовай, С. Герасімава, І. Грабара, А. Дэйнекі, Б. Іягансона, К. Істоміна, С. Канёнкава, П. Канчалоўскага, П. Корына, Кукрыніксаў, А. Мацвеева, Г. Ніскага, А. Асмеркіна, А. Пластава, Б. Прарокава, Ф. Рашэтнікава, Я. Ромаса, В. Сярова, П. Шухміна, К. Юона і іншых.

Багата прадстаўлен раздзел графікі. Тут побач з работамі такіх выдатных майстроў, як В. Фаворскі, Дэні, Маор, Д. Шмарынаў, выстаўлены творы Б. Яфімава, А. Ганчарова, Д. Дубінскага, П. Мітурыча, а таксама маладых графікаў Г. Захарава, І. Галіцына і іншых.

Выстаўка выклікае вялікую цікавасць, ажыўленыя дыскусіі. Менш чым за месяц з дня яе адкрыцця выстаўку наведала звыш 100 тысяч гледачоў.

Маюць цікавасць работы раду мастакоў, якія раней не выстаўляліся. На выстаўцы ўзнікаюць спрэчкі, дыскусіі вакол работ мастакоў, якія адступаюць ад традыцый рускага, савецкага сацыялістычнага мастацтва. Ажыўлена абмяркоўваюцца і работы мастакоў-рэалістаў, якія вызначаюцца сваёй манерай пісьма, напрыклад, работы такіх розных майстроў, як А. Дэйнека, А. Пластаў, і А. Лакціёнаў. Кожны з гэтых мастакоў у сваёй творчай манеры вырашае праблему стварэння твораў аб жыцці нашага народа. Некаторым не падабаецца манера пісьма мастака А. Лакціёнава, яго дэталізацыя рысунка, якая часам трактуецца як фатаграфічнасць. Іншыя гледачы вітаюць яго творы як ясныя па зместу і па форме.

Ёсць на выстаўцы творы, якія выклікаюць пачуццё нездаволенасці, сур'ёзныя пярэчанні. Гэта датычыць і некаторых майстроў старэйшага пакалення, і раду маладых мастакоў. У некаторых карцінах Р. Фалька («Агаленая», «Нацюрморт»), А. Дрэвіна, А. Васняцова, П. Ніканава («Геолагі»). А. Полагавай («Мацярынства») яўна праяўляюцца фармалістычныя тандэнцыі, людзі выглядаюць у іх творах уродліва, прыніжана.

У час агляду выстаўкі таварыш М. С. Хрушчоў, кіраўнікі партыі і ўрада выказалі рад прынцыповых палажэнняў аб высокім прызванні савецкага выяўленчага мастацтва, якое разнастайнымі сродкамі павінна праўдзіва адлюстроўваць жыццё народа, натхняць людзей на будаўніцтва камунізма, выхоўваць у чалавеку самыя лепшыя, самыя высакародныя пачуцці, глыбокае разуменне прыгожага. Іменна да гэтага клічуць работнікаў мастацтва наша партыя, яе новая Праграма. Лепшыя работы савецкіх мастакоў, экспанаваныя на выстаўцы, паспяхова вырашаюць гэтыя творчыя задачы.

Разам з тым сярод мастакоў сустракаюцца і такія, у творчасці якіх ёсць няправільныя тэндэнцыі. Яны не заўважаюць новых з'яў у нашым жыцці, без любві і павагі да чалавека ствараюць карціны, раўнадушныя і халодныя, у духу пераймання фармалістычных узораў у жывапісу і скульптуры.

Знаёмячыся з такімі, напрыклад, карцінамі, як «Снеданне» А. Васняцова, «Геолагі» П. Ніканава, і некаторымі іншымі, таварыш М. С. Хрушчоў сказаў:

— Карціна павінна ўзвышаць чалавека, натхняць і весці яго на высакародны подзвіг. А хіба падобныя карціны могуць выканаць такія высокія грамадскія задачы?

(Заканчэнне на 2-й стар.)

НА АБЛАСНЫХ АГЛЯДАХ

# У САМАДЗЕЙНАСЦЬ — ПА КОНКУРСУ?

**В. ЗАХАРАЎ,**
заслужаны дзеяч культуры БССР

Больш чым на пятнаццаці раённых аглядах мастацкай самадзейнасці Мінскай вобласці выступалі харавыя калектывы настаўнікаў і медыцынскіх работнікаў. Мяне гэтая з'ява, прызнаюся, кранула, бо ўдзел у аматарскім мастацтве сельскай інтэлігенцыі надае яму новыя якасці і рысы. Важна і іншае: калі настаўнікі школы спяваюць самі, дык можна спадзявацца, што яны навучаць любіць песню і музыку сваіх вучняў.

Некаторыя калектывы дасягаюць сапраўднага майстэрства выканання. Да гэтага, безумоўна, і павінна імкнуцца самадзейнасць.

Аднак працэс станаўлення калектыву, яго шлях да майстэрства павінен ісці натуральна, а не штучна. На жаль, даволі часта бывае, калі палац ці дом культуры аб'яўляе конкурс на права наведваць самадзейны хор, аркестр ці танцавальны калектыў. Звярніце ўвагу — конкурс! Не проста прымаюць аматараў спеваў ці танцаў у гуртку, а па конкурсу, арганізоўваючы адбор. Ці не з'яўляецца гэта самамэтаю — дамагчыся, чаго б гэта ні каштавала прафесіянальнага ўзроўню адразу, адразу здзіўляць і захапляць!

Гэтым, зразумела, зусім не хачу сказаць, што я супраць высокага прафесіянальнага ўзроўню мастацкай самадзейнасці. Проста хочацца падкрэсліць, што самадзейнасць павінна быць справай усіх, хто жадае ў ёй удзельнічаць.

І таму, думаецца, майстрам мастацтва, захапляючыся і радуючыся высокай выканаўчай культуры і гучанню прызнаных калектываў самадзейнасці, трэба не ў меншай меры радавацца паяўленню і развіццю маладых калектываў. І не толькі радавацца, а памагаць ім, выхоўваць іх удзельнікаў.

На аглядзе самадзейнасці Мінскай вобласці (ды і іншых абласцей) мы бачылі вынікі творчай дапамогі такіх мастакоў-прафесіяналаў, як Р. Шырма, Г. Цітовіч, І. Кузняцоў, П. Акулёнак, І. Сушко.

Добрае гучанне, высокая пеўчая культура ўласцівы народнай харавой капэле вёскі Лебедзева Маладзечанскага раёна. Цікавы і самабытны мужчынскі хор калгаса «Ленінскі шлях» Нясвіжскага раёна. У гэтых і іншых калектывах удзельнічаюць не выбраныя па конкурсу таленты, а вялікія аматары мастацтва, якія ўвесь вольны час аддаюць самадзейнасці.

Прыемна адзначыць, што на гэтым аглядзе было значна больш, чым раней, харавых калектываў калгасаў, саўгасаў, фабрык, заводаў, навучальных устаноў. І няхай некаторыя з іх яшчэ толькі пачынаюць сваё творчае жыццё. Галоўнае ж — пачатак зроблены.

У рэпертуары калектываў шырока былі прадстаўлены творы класікаў, савецкія песні, беларускія народныя песні і танцы, творы беларускіх кампазітараў, паэтычныя і празаічныя творы беларускіх пісьменнікаў, а таксама творы рускага і братніх народаў нашай краіны і краін народнай дэмакратыі.

Варта таксама адзначыць разнастайнасць жанраў: хоры і ансамблі, квартэты, дуэты і салісты, аркестры народных інструментаў, дудары і баяністы, цымбалісты і балалаечнікі, эстрадныя аркестры, акрабаты, жанглёры і ілюзіяністы. Многімі калектывамі былі падрыхтаваны літаратурна-музычныя кампазіцыі з шырокім выкарыстаннем мясцовага матэрыялу з жыцця раёна, калгаса, завода.

Не ўсё задуманае атрымала яркае ўвасабленне на сцэне. Так, напрыклад, добрая па зместу «Нарачанская сюіта» прайграе з-за вялікай колькасці неістотнага, паўторнага. Вялікі калектыў, які паклаў шмат працы і энергіі, аказаўся бездапаможным у самых простых рэчах. Ці толькі яго гэта віна? Думаецца, што вінаваты ў гэтым і дзеячы нашага мастацтва. Пра гэтую задуму ведалі даўно, чакалі ад яе многага, а вось дапамогі не аказалі.

Нешта падобнае адбылося і з салігорцамі, з калектывамі мастацкай самадзейнасці Барысаўскага фанерна-запалкавага камбіната, Беларускага аўтазавода, Слуцкага Дома культуры.

Наша самадзейнасць набывае ўсё больш масавыя формы, даходзіць да брыгады, да невялікага сельскага клуба. Яна спрабуе (і часта не без поспеху) вырашаць новыя пытанні, ствараючы сучасныя творы ў многіх жанрах. Зразумела, што ў гэтай справе здараюцца і хібы. Адны калектывы, не разлічыўшы сваіх сіл, бяруцца за складаныя праблемы, другія, не валодаючы вопытам, не ўмеюць ярка паказаць задуманае. Ёсць і яшчэ адна небяспека — коснасць, прывычка да традыцыйных форм і характару мастацкай самадзейнасці. Гэтая прывычка, на жаль, бытуе і сярод кіраўнікоў калектываў, часам спецыялістаў-прафесіяналаў, якія спрабуюць сляпа пераносіць на самадзейную глебу рэпертуар і манеры выканання прафесіянальнага мастацтва.

Іншы такі спецыяліст, прагледзеўшы танцы «На ферме», «Кукуруза», «Нарачанскія рыбакі», праслухаўшы песні, створаныя сёння, неадабральна паківае галавой і глыбакадумна скажа: «Так то яно так, але ж дзе народнае?» І колькі вы ні будзеце даказваць яму, што ў гэтым танцы ці песні гучыць беларуская сучасная музыка, што ў іх паказаны сённяшні дзень беларускай калгаснай вёскі, горада ці завода, — ён бачыць «народнасць» толькі ў «Бульбе» ці «Ой, рана на Івана». Бясспрэчна, вялікую спадчыну народнага мастацтва трэба захоўваць і берагчы. Але захоўваць — гэта значыць памнажаць і развіваць далей, а не кансерваваць. Танцы «Кукуруза», «Нарачанскія рыбакі», песня «Ручнікі» не менш народныя, чым «Юрачка» ці «Бульба» (дарэчы, грунтоўна перапрацаваныя мастаком-прафесіяналам І. Маісеевым).

Мяне заўсёды радавала і здзіўляла вялікая любоў і адказнасць, з якой ставяцца ўдзельнікі самадзейнасці да мастацтва. Яны без наракання пераносяць шматлікія цяжкасці, выступаючы пасля працоўнага дня, едучы ў любое надвор'е за дзесяткі кіламетраў. Міжволі думаецца, як шмат увагі, чуласці і падтрымкі патрэбна гэтым энтузіястам, як тонка і глыбока трэба адчуваць нараджэнне новага ў народным мастацтве, клапатліва ахоўваць і развіваць яго.

І бадай першым практычным крокам у гэтай справе было б пасля аглядаў пачаць аб гэтым шырокую гаворку — гаворку пра развіццё новых з'яў у народным мастацтве з удзелам у ёй як спецыялістаў-прафесіяналаў, так і ўдзельнікаў самадзейнасці, партыйнага, прафсаюзнага, камсамольскага актыву.



У рэпертуары інжынера аддзела галоўнага канструктара Мінскага аўтазавода Іосіфа Гарэцкага многа гумарыстычных твораў беларускіх пісьменнікаў. На здымку вы бачыце хітраватага беларускага селяніна, які выступае за сведку перад панам суддзёй. Гэта І. Гарэцкі чытае верш Ф. Багушэвіча «Сведка».
Фота Ул. КРУКА.

# МУЗЫКА У ЦЫРКУ

Як гэта ні дзіўна, раней цыркавыя аркестры амаль заўсёды былі надзвычай слабыя па сваёй кваліфікацыі, а музыкантаў, што ігралі ў такіх аркестрах, нават не лічылі за прафесіяналаў.

Аднак узрослыя культурныя запатрабаванні савецкіх гледачоў прымусілі разглядаць музычнае афармленне цыркавога паказу як справу вельмі важную. Адзін за другім сталі ўзнікаць цыркавыя аркестры, якія адпавядаюць запатрабаванням нашай сучаснасці. Прыемна адзначыць, што адным з першых сярод іх быў аркестр Дзяржаўнага цырка Беларускай ССР.

У адрозненне ад іншых, гэты калектыў працуе ў адным і тым жа складзе ўжо шмат гадоў. Ён валодае выдатным пачуццём ансамбля, чысцінёй інтанацыі і значнымі тэхнічнымі магчымасцямі. Паказальна, што ўсе гэтыя якасці яскрава праяўляюцца не толькі пры выкананні сольных нумароў і кароткіх музычных п'ес, але і ў час працяглых акампанементаў (напрыклад, пры так званых «конных» нумарах, калі на працягу 10—15 мінут аркестр павінен без перапынку іграць галоп у надзвычай хуткім тэмпе). Такая ігра вымагае ад музыкантаў вялікага напружання фізічных сіл, тэхнічнага майстэрства. І калі аркестр здольны вытрымаць гэтае напружанне да канца і пры гэтым захаваць дасканаласць выканання і патрэбную нюансіроўку, такі калектыў можна лічыць сапраўды першакласным.

Для цыркавых аркестраў стаў традыцыйным так званы «салонны» склад (невялікая струнная група, флейта, габой, адзін-два кларнеты, валторна, трубы, трамбон), па сваёй тэмбравай разнастайнасці даволі абмежаваны. Больш багатыя магчымасці для выканання цыркавой музыкі, безумоўна, маюць эстрадныя калектывы з больш маляўнічай аркестравай палітрай, мацнейшым гучаннем, шырэйшым выканаўчым дыяпазонам. Аркестр Дзяржцырка БССР мае менавіта такі склад. І за гады сваёй дзейнасці ён набыў даволі шырокую вядомасць. Акрамя суправаджэння цыркавых спектакляў, калектыў выступае з самастойнымі праграмамі на Мінскай студыі тэлебачання, запісвае на магнітафонную плёнку музычныя творы для Беларускага радыё.

За гады свайго існавання аркестр набыў нямала каштоўных і добрых традыцый. Адна з іх — сапраўды творчая атмасфера ў калектыве. Ён надзвычай працавіты, ніколі не шкадуе часу на рэпетыцыі. Тут часта практыкуюцца заняткі па групах, адведзены спецыяльны час для настройкі інструментаў і не бывае выпадку, каб які-небудзь аркестрант спазніўся на працу ці прыйшоў на спектакль, не ведаючы ў дасканаласці сваю партыю, не паўтарыўшы яе тэхнічна складаныя месцы.

І яшчэ адна характэрная рыса — амаль кожны з артыстаў аркестра валодае не адным, а двума, трыма і нават чатырма музычнымі інструментамі. Гэта значна пашырае выканаўчыя магчымасці параўнаўча невялікага калектыву (у ім усяго пятнаццаць выканаўцаў і дырыжор). Асаблівую прыгажосць і сучаснасць гучання надаюць аркестру электрамузычныя інструменты: вібрафон, электрагітара, клавіяліна, аркестрыён і інш.

У калектыве ёсць нямала таленавітых музыкантаў. Па-сапраўднаму ўлюбёныя ў сваю справу, яны працуюць у аркестры з дня яго заснавання. Гэта — дырыжор аркестра і выдатны піяніст Д. Сакалоў, які сам піша музыку і ўмее добра інструментаваць творы (яго пяру належаць Уверцюра на тэмы беларускіх народных песень, аркестравыя апрацоўкі «Юрачкі», «Нёмана», «Лянка»). Гэта — саксафаніст і скрыпач П. Бакліцкі, які валодае цудоўным гукам, тэхнікай, фразіроўкай на абодвух інструментах і вядомы як добры аркестроўшчык (яго пералажэнні выконваюцца ў многіх цыркавых аркестрах Савецкага Саюза). Нельга таксама не адзначыць скрыпача і трамбаніста М. Рыскіна, у выкананні якога гучаць сольныя скрыпічныя эпізоды, і ўдарніка У. Аляксандрава — музыканта, надзеленага надзвычай вострым пачуццём рытму і сапраўды мастацкім густам.



За дырыжорскім пультам — Д. Сакалоў.

Добрыя выканаўчыя якасці аркестра не раз адзначалі выдатныя савецкія і зарубежныя цыркавыя калектывы і асобныя артысты.

Аднак ці заўсёды задавальняе густы слухачоў цыркавая музыка? Ці заўсёды выносяць яны са спектакля добрыя музычныя ўражанні, пачуццё сустрэчы з сапраўдным мастацтвам?

На жаль, не! І залежыць гэта часта не ад аркестра. Справа ў тым, што часцей за ўсё кожная цыркавая група ці асобны артыст афармляюць свой нумар музыкай, кіруючыся толькі ўласным густам. А ён не заўсёды бывае высокі. Падабраўшы музыку, якая, на яго думку, пасуе да цыркавога нумара, артыст звычайна аддае аркестраваць яе мала дасведчанаму інструментоўшчыку з абавязковай умовай, каб аркестроўка «падыходзіла» для любога магчымага складу цыркавога аркестра. Тут ужо не застаецца нічога іншага, як пісаць так, каб можна было выконваць музычны нумар са скрыпкамі і без іх, з трубамі і без труб, з раялем і без яго, з «аркестрам» у тры чалавекі і аркестрам у трыццаць.

Безумоўна, такая унісонная, «на ўсе выпадкі жыцця» аркестроўка не толькі не мае мастацкай каштоўнасці, але, шчыра скажам, псуе сам музычны твор, робіць яго шэрым і нецікавым. Вось з такімі «аркестроўкамі» і прыходзіцца штодзённа «змагацца» нашаму аркестру.

Выбар музыкі для сваіх нумароў самімі артыстамі ці выпадковымі «музычнымі афарміцелямі» прыводзіць да неверагоднай стракатасці цыркавой музыкі. Тут можна пачуць у самых дзіўных спалучэннях і музыку з буйных сімфанічных твораў Бетховена, Ліста ці Шуберта, і побач траскучы марш «лейбгвардзейскага палка», музыку з балетаў Чайкоўскага, опер Глінкі і Барадзіна, і шумны амерыканскі факстрот, песні і інструментальныя творы савецкіх кампазітараў, а па суседству — урывак са старой аперэты, напісанай больш ста гадоў назад.

У якасці прыкладу можна прывесці апошнюю цыркавую праграму, з якой выступаюць у Мінску нашы літоўскія сябры. Сама па сабе гэтая праграма — цікавая і змястоўная, а вось што датычыць музыкі, тут можна пажадаць многа лепшага. Так у адных і тых жа нумарах (ці ў суседніх) можна пачуць і прымітыўна аркестраваную літоўскую народную музыку і песні савецкіх кампазітараў, урыўкі з аперэты «Прадавец птушак» і чэшскі «Вішнёвы сад», нейкі кафэшантанны марш і рускі народны танец. Не варта, на маю думку, было ўключаць у нумар вышэйшай школы верхавой язды мелодыі «Падмаскоўных вечароў» і «Марша энтузіястаў». Па спецыфіцы гэтага нумара ў музыцы павінны быць нечаканыя люфт-паузы, паскарэнні, прыпынкі і такая рытмічная «апрацоўка» не толькі скажае песні, але і робіць іх гратэскнымі. А між тым менавіта з гэтымі песнямі ў кожнага савецкага чалавека звязаны пачуцці, далёкія ад камічнага ці смешнага.

Вось так і атрымоўваюцца своеасаблівыя «нажніцы» паміж аркестрам, які мае вялікія патэнцыяльныя магчымасці, і тым рэпертуарам і «музычным матэрыялам», які ён вымушаны выконваць па ходу цыркавой праграмы.

Музыку ў цырку трэба разглядаць не як нейкі «дадатак» да праграмы, а як раўнапраўнага ўдзельніка цыркавога паказу. Музыка ў цырку таксама можа і павінна ўздзейнічаць на мастацкія густы наведвальнікаў, прыносіць ім эстэтычную асалоду, задавальняць іх культурныя запатрабаванні. Але для гэтага трэба вырашыць у першую чаргу пытанні рэпертуару і сапраўднага мастацкага музычнага афармлення цыркавых спектакляў. Хочацца верыць, што нашы кампазітары вырашаць іх і музыка для цырка перастане быць занядбаным жанрам мастацтва.

Д. ЖУРАЎЛЕЎ.

## Канстытуцыя гарантуе...



**Хто гэтыя маладыя людзі, якіх наш фотакарэспандэнт застаў у час падрыхтоўкі да новага эцюда! Прафесіянальныя акцёры! Пакуль што не. Але...**

**Але маляр Галя Кісялёнак з Мінска, машыніст з Оршы Леанід Кавалёў і загадчык клуба з Іўеўскага раёна Зянон Пазняк — студэнты Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. І яны будуць акцёрамі, прыйдуць праз некалькі гадоў з дыпломамі ў творчыя калектывы тэатраў. Іх мара збудзецца не толькі таму, што ёсць прызванне, ёсць здольнасці. Збудзецца яна і таму, што ў нашай краіне кожны чалавек мае права на адукацыю.**

**Мы не здзіўляемся, што маляр, машыніст, даярка, токар прыходзяць у аўдыторыі вышэйшых навучальных устаноў, што ім даступныя ўсе здабыткі культуры і навукі ад сістэмы Станіслаўскага да тэорыі адноснасці Эйнштэйна. Не здзіўляемся, бо прымаем гэта як належнае, як натуральнае права чалавека.**

НЕ ПРОЙДЗЕМ МІМА!

# ЧЫТАЦКАЯ РЭПЛІКА ГЛЕДАЧА ВЫСТАЎКІ

Недасведчаны ў выяўленчым мастацтве чалавек, я не бяруся меркаваць, у якой ступені рэспубліканская мастацкая выстаўка, што адкрылася ў суботу, з'яўляецца скарбніцай высокага прафесіянальнага майстэрства. Тут, безумоўна, скажуць сваё слова спецыялісты. Але што яна — рассаднік элементарнай непісьменнасці і абыякавасці да роднай мовы, дык у гэтым я адразу разабраўся, прайшоўшы па залах Мастацкага музея.

У мяне такая прывычка (не ведаю, правільная ці не) — спачатку даведаюся назву карціны, а потым ужо разглядаю намаляванае з найбольш зручнай дыстанцыі. І вось падыходжу да рамы, чытаю: «Даўгала М. Х. **Сеў»**. Адступаю, гляджу: хто сеў, куды сеў, чаго сеў? Ніхто, бачу, нікуды не сеў, на палатне — вясна, ходзіць на выгане статак кароў, у далечыні за вёскай — ралля, якая просіць зярнят... Ах, вось яно што — час сяўбы, **сяўба!** А бадай вас, думаю, — якую загадку задалі!

І ля сур'ёзнай карціны рассмяяўся.

Ды ўжо калі настроіўся на смех — пайду, думаю, да сатырычнай графікі, высмеюся, каб не здавацца дзіваком. На гэты раз парашыў дзейнічаць наадварот — спачатку паглядзець малюнак, а потым прачытаць подпіс. Кінуўся ў вочы графічны ліст В. Ціхановіча. На ім — свіння і карова, — абедзве саркастычныя, шэльмы — пра нешта вельмі з'едліва гавораць. Пра што ж?

«— Як жывеш рагуля?
— Як у свинарніку.
— А ты?
— Як у **дварцы!»**

Высмяяўся, называецца! Тут калі і хацелася смяяцца, то толькі з «мовы», на якой прымушаюць «ізьясняцца» (падыграем!) свінню і рагулю.

Але гэта хутчэй сумна, чым смешна, — на кожным кроку сустракаць у назвах палотнаў і малюнкаў, у тэкстоўках да сатырычных лістоў такія «перлы»: «Партрэт дзяўчынкі ў **красным світэры»**, «Партрэт **звеньявой»**, «Браслаўскія **азёра»** (аж двойчы), «Зіма ў **Гродно»**, «Партрэт **художніцы»**, «Сабор св. Пятра **у Рыгі»**, «Домскі сабор **у Рыгі»**, «Партрэт агранома А. Я. **Варабьёва»**, **«Антэнны»**, **«Берага** Віліі», «Цікава, як яны ўсе **разсядуцца** на дванаццаці **стуллях»**, «Пачатак футбольнага **сэзону»**, «Бяда, шмат маю жонак, а **ні водная** не хоча мяне прымаць», «Чаму **вясы** стаяць бокам да пакупнікоў?», «Хойзінгер — **высокапастаўленны** генерал НАТА» і інш.

Некалі ў газеце «Літаратура і мастацтва» былі надрукаваны **сяброўскія** шаржы М. Лісоўскага на сваіх калег-мастакоў. А трапіўшы на выстаўку, яны зрабіліся ўжо **«дружаскімі»**.

Хочацца «па-дружаску» сказаць аўтарам непісьменна падпісаных карцін і малюнкаў і тым з арганізатараў выстаўкі, хто павінен быў прасачыць за гэтымі «дробязямі»:

— Давайце будзем паважаць наведвальнікаў выстаўкі не толькі як гледачоў, але і як чытачоў! Навошта ж, гаворачы з людзьмі мовай фарбаў, зневажаць мову гукаў і літар!

А. КАЛІНА.

# Андрэю Упіту — 85 год

**У сувязі з 85-годдзем з дня нараджэння латышскага пісьменніка А. М. Упіта праўленне Саюза пісьменнікаў БССР звярнулася да яго з прывітаннем.**

**Дарагі Андрэй Мартынавіч!**

**Беларускія пісьменнікі горача віншуюць Вас, слаўнага сына латышскага народа, нястомнага працаўніка на літаратурнай ніве, класіка сучаснай латышскай літаратуры, у дзень Вашага 85-годдзя.**

**Больш паўстагоддзя працуеце Вы ў латышскай літаратуры як празаік, драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца, перакладчык, узнімаючы яе на новыя вышыні і ведучы за сабой новыя пакаленні таленавітых пісьменнікаў. Выхадзец з народных глыбінь, Вы ўвесь свой вялікі, невычарпальны талент аддаяце служэнню працоўнаму народу, клопатам аб яго шчаслівым будучым. Вашы цудоўныя творы ўвайшлі ў залаты фонд шматнацыянальнай савецкай літаратуры, узбагачаючы адначасова скарбніцу сусветнай культуры.**

**Добра ведае і высока цэніць многія з Вашых твораў і наш беларускі чытач, як і мы, Вашы малодшыя таварышы па літаратурнай працы.**

**Мы бясконца рады, дарагі Андрэй Мартынавіч, што Вы наш сучаснік, жывяце з намі і, нягледзячы на гады, паказваеце прыклад працавітасці, глыбокай цікавасці да спраў літаратуры, жыцця і працы пісьменнікаў. Ад усяго сэрца шлём Вам найлепшыя пажаданні ў Вашым жыцці і высакароднай дзейнасці Вашай.**

Пісьменнік і час

# РУПАРЫ ІДЭИ

**Павел ДЗЮБАЙЛА**

Цяпер ужо рэдка сустракаюцца людзі, якія разумеюць сучаснасць у літаратуры спрошчана, атаясамляюць яе з сучаснай тэмай. Паняцце сучаснасці значна шырэйшае і глыбейшае. Пісаць па-сучаснаму — значыць пісаць на ўзроўні лепшых дасягненняў сённяшняй мастацкай літаратуры, пісаць для цяперашняга, эстэтычна чулага чытача, які не жадае і не можа ўжо прымаць паўпраўду, надакучлівую агульшчыну, халодную рыторыку, траскучую дэкларатыўнасць, фармалістычныя выкрутасы. Патрабаванне сучаснасці твора — гэта таксама патрабаванне інтэлектуальна багатага героя.

Аднак чытаеш аповесці і раманы апошняга часу («Вясеннія ліўні» Ул. Карпава, «Жылі-былі хлопцы» А. Сабалеўскага, «Я — твой друг» Д. Уксусава, «Вецер з палёў» Г. Васюковай, «Мера часу» Л. Арабей і інш.) і адчуваеш, што ім якраз і нестае інтэлектуальнасці, псіхалагічнай напоўненасці, аўтары іх не здолелі стварыць паўнакроўныя маштабныя вобразы нашых сучаснікаў. Падобныя творы «фармальна стаяць на ўзроўні дня. Аднак, напісаныя паспешліва, такія «скараспелкі» нічому нікога не вучаць і не вытрымліваюць выпрабаванне часам» (М. Лынькоў).

У чым жа справа? Галоўнае, як нам здаецца, ў тым, што пісьменнікі ніяк не могуць пазбегнуць ілюстрацыйнасці, ідуць ад пэўных літаратурных схем, а не ад сапраўднага жыцця. Для іх самае важнае — не пранікненне ў з'явы жыцця і іх мастацкае асэнсаванне, а толькі праблемы, пастаўленыя ў творах. Героі цікавяць іх толькі як рупары пэўных ідэй, а не як шматгранныя жыццёвыя вобразы. «Літаратурны твор не становіцца добрым толькі ад таго, што аўтар стаіць на правільным пункце гледжання. Гэта ўсяго толькі перадумова... Права ж называцца пісьменнікам вызначаецца яшчэ і наяўнасцю іншых якасцей... Уся справа ў правільнасці ўвасаблення» (А Зэгерс). Але для глыбокага мастацкага ўвасаблення задумы некаторым нашым пісьменнікам нестае творчай культуры, наогул прафесіянальнага майстэрства. Калі ж пісьменнік разумее гэта, аднак піша аб сучаснасці шэрыя, хоць і «ідэйныя» творы, тым самым дыскрэдытуючы тэму, трэба на ўвесь голас гаварыць аб спекуляцыі надзённасцю.

У творах Ул. Карпава, Д. Уксусава, Г. Васюковай, Л. Арабей шмат адзнак сённяшняга дня: праца на вытворчасці, выхаванне і перавыхаванне моладзі, барацьба за ажыццяўленне маральнага кодэкса будаўніка камунізма і г. д. Але няма галоўнага — пераканаўчага вобраза жывога чалавека — героя нашага часу. Нягледзячы на шматлікія аўтарскія «рэкамендацыі», «атэстацыі», літаратурныя схемы не ажываюць, персанажы не ўяўляюцца як жывыя людзі. Вобраз траціць адзнакі рэальнага героя, калі «абстрактнае пераважае над вобразным, публіцыстычнае вытлумачэнне характараў — над іх раскрыццём у жывым развіцці» (А. Суркоў). Мы не ведаем, як героі думаюць, адчуваюць, наколькі яны развітыя інтэлектуальна, бо пісьменнікі пазбавілі іх глыбокага духоўнага зместу: яны толькі рэгістравалі душэўныя зрухі герояў, не паказвалі характары «знутры», карысталіся аднымі знешнімі прыёмамі абмалёўкі вобразаў. Героі «думаюць» аўтарытэтнымі цытатамі, падганяючы жывыя факты жыцця пад гатовыя палітычныя і эканамічныя формулы. Мы наглядаем, як правіла, грубую імітацыю разумовай і інтэлектуальнай дзейнасці. Духоўная легкаважкасць герояў нярэдка прыкрываецца яшчэ імітацыяй мілай інфантыльнасці, «здаровага» аптымізму. Вось характэрны прыклад.

«— Камунізм для нас не нехта будуе, а мы самі, — гаварыў Валодзя. Твар у яго быў ружовы, ружовая была шыя пад расшпіленым каўняром.

— Правільна, Валодзька, правільна, і я будую камунізм, — весела адазвалася Валя. — Але ўжо як пабудую, то кожны дзень буду ў новай сукенцы хадзіць. Вельмі ў мяне на сукенкі патрэбнасць вялікая!..

— Вось вы жартуеце, — адазвалася Каця. — А колькі ёсць людзей, якія не хочуць будаваць камунізм для ўсіх, а робяць яго самі для сябе. Задавальняюць свае высокія патрэбы, як толькі могуць.

— Такія людзі, вядома, ёсць, — згадзіўся Валодзя. — І я думаю, што лягчэй пабудаваць матэрыяльную базу камунізма, чым выхаваць чалавека сапраўднага камуністычнага грамадства. Але і гэта павінны рабіць мы самі. Трэба акружаць пагардаю людзей, якія жывуць толькі для сябе...»

Гэта размова маладых рабочых за сталом на імянінах (аповесць Л. Арабей «Мера часу»). Такія, часам вельмі правільныя, але заштампаваныя, халодныя разважанні нічога не гавораць пра індывідуальныя, асабістыя адносіны герояў да ўсенароднай справы. Аб падобных героях вельмі добра сказаў Якуб Колас: «У некаторых творах герой «гарыць на рабоце», выступае з вельмі правільнымі прамовамі, але ён пазбаўлены сапраўдных пачуццяў, рыс жывога чалавека, характару». Л. Арабей не здолела паказаць, як справа камуністычнага будаўніцтва праходзіць праз сэрцы і душы герояў, зрабіўшыся сэнсам іх жыцця.

Увасабляючы надзённую задуму (адлюстраванне нялёгкага станаўлення характару былой школьніцы, маладой работніцы Зоі Булат), Л. Арабей не пайшла далей звыклай схемы. Зоя не паступіла ў інстытут, бацькі ўладкавалі яе на гадзіннікавы завод, а яна, спалохаўшыся цяжкасцей, уцякла з

# ВЫСОКАЕ ПРЫЗВАННЕ САВЕЦКАГА МАСТАЦТВА — СЛУЖЫЦЬ НАРОДУ, СПРАВЕ КАМУНІЗМА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У час гутаркі М. С. Хрушчоў звярнуў увагу на тое, што некаторыя мастакі фанабэрыста, пагардліва адносяцца да грамадскай думкі аб іх творах, і сказаў, што, калі твор зразумелы толькі яго аўтару і не прызнаецца народам, такі твор нельга аднесці да сапраўднага мастацтва.

На пытанне кіраўнікоў Маскоўскай арганізацыі мастакоў, як ацэньваецца выстаўка ў цэлым, тав. М. С. Хрушчоў адказаў:

— Як і на ўсякай выстаўцы, тут прадстаўлены і добрыя, і сярэднія, і слабыя работы. Арганізатары выстаўкі ў радзе выпадкаў, відаць, пайшлі на павадку ў тых, хто абараняе слабыя і непрымальныя творы, праявілі лібералізм. А такая палітыка не можа прывесці да далейшага ўздыму савецкага мастацтва сацыялістычнага рэалізму. У кіраўніцтве мастацтвам патрэбна ідэйная паслядоўнасць і прынцыповасць, яснасць, дакладнасць і непрымірымасць да любых хістанняў і адступленняў ад галоўнай лініі развіцця нашага мастацтва — мастацтва народа, які будуе камунізм.

Мастакі і скульптары горача падзякавалі таварышу М. С. Хрушчову, кіраўнікам партыі і ўрада за наведанне выстаўкі, увагу да іх творчай працы, за каштоўныя парады і крытычныя заўвагі і сказалі, што яны ўлічаць гэтыя парады і заўвагі ў сваёй творчай рабоце.

* * *

У той жа дзень кіраўнікі партыі і ўрада агледзелі работы некаторых так званых абстракцыяністаў.

Нельга без пачуцця неўразумення і абурэння глядзець мазню на палотнах, пазбаўленую сэнсу, зместу і формы. Гэтыя паталагічныя выкрутасы з'яўляюцца нікчэмным перайманнем дэмаралізаванага фармалістычнага мастацтва буржуазнага Захаду.

М. С. Хрушчоў папрасіў аўтараў прадстаўленых карцін і скульптур растлумачыць, што яны адлюстроўваюць у сваіх работах, якую думку хочуць яны данесці да гледача. У адказ была чуваць толькі незразумелая гаворка, якая сведчыць аб духоўным убостве аўтараў гэтых «твораў».

— Такая «творчасць» чужая нашаму народу, ён адвяргае яе, — гаворыць М. С. Хрушчоў, — вось над гэтым і павінны задумацца людзі, якія называюць сябе мастакамі, а самі ствараюць такія «карціны», што не зразумееш — нарысаваны яны рукой чалавека ці намаляваны хвастом асла. Ім трэба зразумець свае памылкі і працаваць для народа.

Гэтыя словы Мікіты Сяргеевіча сустрэлі адабрэнне савецкіх мастакоў, якія ўдзельнічалі ў аглядзе абстракцыяніцскіх работ.

У заключэнне М. С. Хрушчоў, звяртаючыся да прысутных, падкрэсліў, што пытаннямі развіцця мастацтва, эстэтычнага выхавання працоўных павінны глыбока цікавіцца і штодзённа займацца партыйныя і камсамольскія арганізацыі, творчыя саюзы, Міністэрства культуры, органы друку, радыё, тэлебачанне. Гэта — важныя пытанні ідэалагічнай работы, якія ўсе мы, кіруючыся ўказаннямі Ул. І. Леніна, павінны заўсёды трымаць у цэнтры ўвагі.

У аглядзе выстаўкі твораў маскоўскіх мастакоў, які працягваўся некалькі гадзін, прынялі ўдзел таварышы А. П. Кірыленка, А. М. Касыгін, Д. С. Палянскі, М. А. Суслаў, М. С. Хрушчоў, Л. Н. Яфрэмаў, Ю. В. Андропаў, П. Н. Дзёмічаў, Л. Ф. Ільічоў, В. І. Палякоў, А. П. Рудакоў, А. М. Шалепін. Тут прысутнічалі таксама першы сакратар Маскоўскага гаркома КПСС Н. Г. Ягорычаў, першы сакратар ЦК ВЛКСМ С. П. Паўлаў, загадчыкі аддзелаў ЦК КПСС Д. А. Палікарпаў і Е. М. Чахарын, міністр культуры СССР К. А. Фурцава, галоўны рэдактар газеты «Правда» П. А. Сацюкаў, галоўны рэдактар газеты «Известия» А. І. Аджубей і іншыя.

Тлумачэнні пры аглядзе выстаўкі давалі першы сакратар Саюза мастакоў СССР С. В. Герасімаў, прэзідэнт Акадэміі мастацтваў Б. Ул. Іягансон, сакратар Саюза мастакоў СССР Е. Ф. Белашова, сакратар Саюза мастакоў РСФСР В. А. Сыроў, старшыня Маскоўскага аддзялення Саюза мастакоў Д. К. Мачальскі і іншыя мастакі і скульптары.

